

ТРЭЙЦІ ГОД ВЫДАНЬНЯ
САКАВІК 1944 ГОДУ
№ 6 (42)
Новы Шлях
Б.

# Хрыстос Уваскрос!

. . . Хрыстос Уваскрос!

З вялікім сьвятам адвечнага аджыўленьня віншую цябе, Вялікі Беларускі Народ!

Гэтай вялікай ночы страсі з сябе усю пагарду, увесь бруд, каторым аблеплівалі цябе ад вякоў. Чыста вымыйся, прыбярыся у найлепшую вопратку, каб стаў ты роўным з усімі, і ідзі туды, дзе пачуеш гэтыя вялікія словы:

— Хрыстос Уваскрос!

Услухайся у іх. Якая вялікая сіла, які усёажыўляючы зьмест захаваны у іх. Ці ня чуеш, як радасьцю надзеі, радасьцю скорага уваскрасеньня вее на цябе ад гэтых слоў:

— Хрыстос Уваскрос!

Радуйся, мой родны краю! Надзея, як жывучая вада, льлецца у тваю душу. Ты ужо уваскрасаеш ад доўгага мёртвага сну. Вясна прыйшла і для цябе. Хрыстос Уваскрос!

Над Ім зьдзекваліся. Яго білі па твары, сьцябалі бізуном. Плявалі на Яго. Кпілі з Яго. У канцы расьпялі і расьпятага не пераставалі мучыць. Сьпечаныя смагай вусны зьвільжвалі воцтам і жоўцю. Ён памёр на крыжы паміж двох разбойнікаў. Але усё-ж-ткі:

— Хрыстос Уваскрос!

Уваскрос Хрыстос, і крыж, — раней знак пагарды і сораму, — зрабіўся Сьвятыняй усяго сьвету. Мукі Хрыстовы змылі усё з яго. І штогоду вялікай вясеньняй ночы тысячы цэркваў і касьцёлаў сьвецяцца агнямі сьвечак, льлецца радасны пераклік званоў, крыж падымаецца над мільёнамі схіленых галоў і у паветры носіцца радасны шэпт:

— Хрыстос Уваскрос!

Што гавораць табе званы, Беларускі Народ? Ці ня віншуюць яны цябе яшчэ і з тваім уласным вялікім сьвятам? Ты уваскрасаеш! Ад вякоў пагарджалі табой, тваёй мовай; ад вякоў мелі за быдла, годнае толькі на цяжкую, надсільную работу. Не давалі табе расьці і разьвівацца. Воцтам чужой культуры зьвільжалі твае, сьпечаныя смагай сьвету вусны. Лепшых тваіх сыноў адрывалі ад цябе, прымушалі іх зрабіцца здраднікамі. А пасьля пышыліся імі, называлі іх сваімі. І яны-ткі іхнія.

А хіба-ж яны ня любілі цябе? Хіба лепшы жар свайго сэрца ахфяравалі не табе? А дзе яны?

Іх няма з табой! З самага малку адарвалі ад роднай глебы, атруцілі здрадай. І іх, тваіх дзяцей, мелі за зброю проці цябе.

Цябе катавалі. Ты цярпеў мукі, але не памёр. Глыбока, глыбока ты захаваў сваю душу.

Хрыстос быў з табой у тваіх муках, і Ён разам з табой цярпеў іх. Колькі разоў расьпіналі Яго разам з табой! Больш разоў, чым ёсьць пяшчынак на дне мора! Але кажнага году па усёй Беларускай зямлі разносіўся кліч:

— Хрыстос Уваскрос!

. . . І ты ужо уваскрасаеш, мой родны краю. Скідаеш з шыі ярмо адвечнага гора і нуды.

Ты ужо перастаеш плакаць. Ты падняў свой твар. З надзеяй ловіш зыкі званоў:

«Бом! бом . . . Ідзі будаваць зруйнаваную бацькаўшчыну!

Наперад, да шчасьця! Хай злое ўсё дрогне!

Вясна ўжо на сьвеце — Хрыстос Уваскрос!»

Я бачу, як сьвятлее твой твар, мой родны краю! І, поўны сіл і веры, я крычу ува усю моц тваім нівам, лясом і балотам, тваім панурым вёскам:

— З вялікім сьвятам віншую! З вялікім сьвятам, Вялікі Беларускі Народ!

— Хрыстос Уваскрос!

Паводля Сяргея Палуяна.




**Злачынны загад і рашучы адказ на яго.**

*Наколькі бальшавіцкая Масква варожая нацыянальным імкненьням беларускага народу, яскрава відаць з апошняга загаду Сталіна, які ён асабіста падпісаў начальніку палітычнага аддзелу штабу беларускага фронту і аб якім перад жыхарствам Менску расказаў капітан чырвонай арміі Ігар Капор. Чатыры пункты гэтага сталінавага загаду прадбачаць зьнішчэньне беларускага народу. Паводля загаду усе мужчыны з захопленых бальшавікамі частак Беларусі ва узросьце ад 15-ці да 55-ці гадоў адразу-ж змабілізоўваюцца у карныя батальлёны і дысцыплінарныя роты. Усе працаздольныя, пераважна жанчыны, прымусова ссылаюцца на аднаўленчыя працы у Данецкі басэйн. Дзеці у бацькоў павінны адбірацца і разлучацца з маткамі. Усе дзеці да чатырнаццаці гадоў павінны зьмяшчацца у адмысловыя дзіцячыя дамы прытулку пры НКВД, дзе яны будуць перавыхоўвацца у савецкім духу. Гэтымі мерапрыёмствамі саветы маюць намер вынішчыць у народзе нацыянальную сьведамасьць і ператварыць у паслухмяных маскоўскіх нявольнікаў. У захопленых імі паветах Віцебскай, Магілеўскай і Гомельскай акругах яны ужо ажыцьцяўляюць гэты злачынны плян. Тых, хто дапамагаў аднаўляць краіну, яны расстрэліваюць. Астатніх гоняць на перадавыя лазыцыі фронту, на пэўную сьмерць. Жанчын, нават тых, якія былі сярод бандытаў у лясох, адарваных ад мужоў і дзяцей, эшалёнамі накіроўваюць у Расею, а дзяцей гоняць няведама куды.*

*Праводзіць усе гэтыя мерапрыёмствы даручана нядаўна назначанаму старшыні Соўнаркому Беларускай Рэспублікі Панамарэнку і адпаведным аддзелам штабу арміі.*

*Беларускі народ на гэты сьмяротны прыгавар адказвае рашучасьцяй ня пусьціць бальшавікоў на сваю зямлю. У ажыцьцяўленьне гэтай навагі змагацца за Бацькаўшчыну 6 сакавіка г. г. Прэзыдэнт Цэнтральнай Рады Беларусі сп. Р. Астроўскі у згодзе з нямецкімі уладамі падпісаў загад аб заснаваньні Беларускай Краёвай Абароны і аб прызыве у яе усіх асобаў, якія атрымалі вайсковую падрыхтоўку, афіцэраў, унтэр-афіцэраў, а таксама усіх мужчынаў, што нарадзіліся ад 1908 па 1917 і ад 1921 па 1924 г. Беларуская Цэнтральная Рада зьвярнулася з заклікам да народу выканаць свой абавязак перад краінай.*

*Час помсты прабіў. Беларусы бяруцца за зброю, каб даканаць свайго агульнага ворага. Гэта лепшы адказ на злачынны загад Сталіна.*

Выдавецтва часапісу «Новы Шлях», Менск, вул. Рагнеды 2, тэл. 21300, Галоўны рэдактар У. Сядура.

# З ФОТО-КАМЭРАЙ



*Старожа на горных пазыцыях у Паўдзённай Італіі. На здымку — нямецкая чатырохдульная зэнітавая гармата стаіць на варце скрыжаваньня горных дарог, каб забясьпечыць гэтыя шляхі зносінаў ад нападаў ворагавых самалётаў.*



→

*Днямі вялікага гістарычнага ходаньня за лепшую прышласьць народаў Новае Эўропы селянін сваёй няспыннай руплівай працай дапамагае набліжэньню гадзіны канчальнае перамогі. Ад раньніх вясновых работаў на палёх залежыць і колькасьць ураджаю.*



*Ангельска-амэрыканскія паветравыя бандыты не спыняюцца перад злачыннымі нападамі на гістарычныя помнікі і на старадаўнія сьвятыні. На здымку — папсаваныя бомбамі паветравых піратаў сьцены італьянскага манастыра Монтэ-Касіно.*



*У раёне умацаваньняў Атлянтыцкага узьбярэжжа зялеза-бэтонавыя бункэры замаскаваныя адмыслова пабудаванымі драўлянымі будынкамі. На здымку — дасьціпна замаскаваны абаронны пункт нямецкае зэнітавае артылерыі.*



*У Нарвэгіі вэлёсыпэды надзвычайна распашыраны. Сьвяточнымі днямі маладыя нарвэжкі у маляўнічых, удала прыстасаваных да вэлёсыпэднага спорту, гарнітурах скіроўваюцца за горад, каб правесьці адпачынак на улоньні прыроды.*

біраюць моцнага газарду. Маладзёж ладзіць карагоды, ігрышчы, гушкаецца на арэлях... У гэтым гушканьні этналёгі бачаць перажытак дахрысьціянскага ачышчэньня паветрам.

Царквою (ці касьцёлам) устаноўлена сьвяткаваць Вялікдзень тры дні. Але шмат дзе на Беларусі гэтае сьвяткаваньне цягнулася даўжэй. Апрача трох дзён «па закону» наш народ сьвяткаваў сераду — «ад граду» (яна так і называецца «градавая серада»), чацьвер — ад грому, пятніцу — ад сушы, сыботу — ад упадку скаціны. Цяпер яшчэ мяйсцамі захоўваецца сьвяткаваньне «градавой серады».

У працягу усяго Вялікоднага тыдня пры спатканьнях нашыя людзі кажуць: «Хрыстос Ускрос», на што адказваюць: «Праўдзіва ускрос». Гэтак «хрыстосуюцца» з роднымі, са знаёмымі, а на першы дзень з кажным стрэчным.

Трэба заўважыць, што наш народ яшчэ адрозьнівае «вялікадні». Гэтае паняцьце стасуецца да усіх сьвятаў, пачынаючы ад Вялікадня і да Міколы. Юр'е і Мікола так і называюцца «сьвяточкамі - вялікоднічкамі».

*

У сьвяткаваньні Вялікадня на Беларусі захавалася цікавая асаблівасьць, хіба адзіная на цэлым сьвеце. Гэта — валачобнікі (ад слова «валачыцца» — «хадзіць»). Грамада моладзі ходзіць па хатах і сьпявае «валачобныя» песьні. На чале валачобнікаў стаіць «пачынальнік» і музыка-скрыпач; яшчэ ёсьць «механоша», астатнія-ж — «падхватнікі». Падыйшоўшы пад акно усёю грамадою, пачынальнік пад скрыпку сьпявае валачобную песьню, а падхватнікі па кажным вершы хорам выкрыкваюць: «Хрыстос ускрос, сын Божы», або: «Зялёны явар кудравы», ці: «Сьпявайце, браткі, сьпявайце». Даюць ім грошы, яйкі, сыры, збожжа, а то запрашаюць у хату і тутака частуюць. На сабраныя грошы валачобнікі потым робяць сабе гасьцяваньне, сабранымі дарамі закусваюць, а яйкі дзеляць пароўну.

У некаторых мяйсцох валачобнікаў называюць «лалыншчыкамі» (ад перайначанага «алелюя»), «ралешнікамі» (ад слова ральля), г. зн. сьпевакамі земляробства.

Найважнейшым зьместам валачобных песьняў зьяўляецца пералік хрысьціянскіх сьвятаў і указаньне таго, што яны робяць у сельскай гаспадарцы. Напр., сьвятое Благавешчаньне заворвае, сьв. Мікола па межах ходзіць — жыта родзіць, сьв. Паўла граблі робіць, сьв. Ільля зажынае і г. д. Так-жа важнае мейсца у песьнях займае і пахвала гаспадару за ягоную працу...

Разглядаючы валачобныя песьні этнолёгі азначаюць, што яны зусім не хрысьціянскага паходжаньня. Падобнымі песьнямі калісьці нашыя продкі азначалі наступленьне «вялікіх дзён» панаваньня сонца і пачатку земляробскага году, пачатку палявых работаў — арбы і сяўбы. Тыя «вялікія дні» былі прысьвечаны сонцу ды іншым земляробскім божышчам, асаблівасьці каторых пазьней перанесены на хрысьціянскіх сьвятых.

І цяпер на Беларусі з Вялікоднымі сьвятамі зьвязана шмат павер'яў ды забабонаў, якія маюць сувязь з арбою ды сяўбою і наагул з земляробскімі працамі. Усе яны маюць на мэце забясьпечыць посьпех у земляробскай працы і павысіць ураджай, бо у гэтым захаваны земляробскі дабрабыт.

Беларускія сяляне, як няўмірушчае ядро беларускага народу, пашанна захоўваюць набытыя правілы жыцьця і учынкаў, агулам — традыцыі сваіх продкаў. Пры гэтым-жа цьвёрда верацъ, што за нарушэньне іх або нават за лёгкадумны недавер Бог ссылае цяжкія кары. І з Вялікаднем, як з найважнейшым сьвятам, нашыя сяляне зьвязалі глыбака-навучальную легенду:

Калісьці на сам Вялікдзень адзін гаспадар кажа: «Пайду гараць; цікавасьць, ці многа я гэтым Вялікім-днём загару?» Так запрог у саху валы і пайшоў гараць... і у першай-жа баразьне скамянеў з валамі, сахою і пугай. (Слонімшчына).

*

На другім тыдні па Вялікадні, у аўторак, беларусы сьвяткуюць «нябожчыцкі Вялікдзень» ці Радаўніцу. Апошні назоў тлумачаць тым, што на Радаўніцу усе нябожчыкі радуюцца Уваскрашэньню Хрыста.

Радаўніца — гэта веснавыя «Дзяды» і адрозьніваюцца ад іншых тым, што у гэты дзень памінкі спраўляюцца абавязкава на могілках. У гэты дзень гаспадыні пякуць «грыбкі»; запасаюцца гарэлкай; да гэтага дабаўляюць астачы ад Вялікоднага «сьвячонага» і зноў яйкі, каторыя абавязкава хварбуюць начырвона. Усё гэта, завязаўшы у настольнік, па абедзе нясуць на могілкі. Тутака накрываюць настольнікам магілу, каторая да гэтага дня прыводзіцца у парадак, і растаўляюць на ёй прынесенае... Што не зьядуць, пакідаюць на магіле; на яе-ж льлюць водку, калі нябожчык любіў выпіць, сыплюць тытун, калі ён курыў. Іншыя-ж усе астачы аддаюць жабраком, пакідаючы на магіле толькі чырвонае яйко. Увечары маладзёж ладзіць гулянье.

*У. Паўлюкоўскі.*




*Хрыстос Уваскросі* — *Малюнак П. Сергіевіча.*

# ФРАНЦІШАК АЛЕКНА-АЛЯХНОВІЧ

Францішак Алекна-Аляхновіч нарадзіўся 9-га сакавіка 1883 году у Вільні, у сям'і нашчадкаў дробнае беларускае шляхты. Дзед нашага драматурга, Іван Аляхновіч, паходзіў з-пад Радашкавічаў. Ён быў дужа таленавітым чалавекам, самавукам, маляваў і добра іграў на іскрыпцы. З маладых гадоў граючы на розных вясельлях і урачыстасьцях, занядбаў сваю невялічкую гаспадарку, а потым і зусім згубіў сваю маемасьць ды пераехаў на сталае жыцьцё у Вільню. Тутака улетку зарабляў на пражыцьцё сваёй сям'і малярскаю працай, а узімку займаўся выключна ігрой на іскрыпцы. Меў ён чатырох дачок і толькі аднаго сына Кароля, бацьку нашага пісьменьніка. Дзед дужа любіў свайго адзінага сына і перадаў яму сваё мастацкае умецьне іграць на іскрыпцы. Па сьмерці дзеда, бацька драматурга, Кароль Аляхновіч, пачаў іграць у віленскіх тэатрах, выязджаючы кажнага лета з аркестрай на курорт у Друскенікі. У Вільні пабраўся ён з Марыяй Марковіч, паходзіўшай з дробнай беларускай шляхты з-пад Гедройцаў, і ад гэтага шлюбу нарадзіўся наш Францішак Аляхновіч.

Калі Францішку споўнілася 5 год, бацька першы раз узяў яго з сабой у тэатар. Потым гэтыя наведваньні сталіся рэгулярнымі і вызначылі духовыя інтарэсы хлапца. Ён знаёміцца з жыцьцём за кулісамі і з часам пачынае лятуцець аб тым, каб самому зрабіцца актoрам.

Вучыцца Ф. Аляхновічу прышлося, як і большасьці беларускае інтэлігенцыі таго часу, у расейскай школе і у расейскай мове. Да таго-ж і лятуценьні ягоныя аб тэатры адварачвалі яго ад школьнае навукі. Першыя гады навучаньня Францішак Аляхновіч, пад даглядам і прынукай рэпэтытара, яшчэ так-сяк вучыўся, але ужо ад чацьвертае клясы гімназіі і рэпэтытар ня мог дапамагчы, і ад ягоных паслугаў прыйшлося адмовіцца. У 4-й і 5-й клясе 2-й Віленскай гімназіі ён праседзіў па два гады. З усіх навучальных прадметаў ён тады шчыра захопліваўся толькі адным маляваньнем. Калі усе «пэдагагічныя захады» і узьдзеяньні, як «двойкі» і «калы» ды запісы у «кондуітны» журнал былі вычарпаны, Пэдагагічная Рада ня прыдумала нічога іншага, як выключыць Ф. Аляхновіча з гэтае гімназіі, як «нядольнага» вучня.

У галаве хлапца ужо даўно сядзела думка аб драматычнай школе, аднак, пад націскам хатніх і знаёмых, ён запісваецца у хэмічна-тэхнічную школу у Вільні. Але і хэмія не змагла настолькі захапіць Францішка, каб ён адкінуў думкі аб тэатры. У хэмічна-тэхнічнай школе ён пратрымаўся толькі адзін год, і таксама пакінуў яе без атэстату. Калі і з хэміяй было скончана, хлопец ужо рашуча зажадаў канечна паступіць у драматычную школу. Дзеля таго, што у Вільні драматычнай школы ня было, трэба было ехаць або у Варшаву, або у Кракаў. У Кракаве былі нейкія знаёмыя хлапцы з Вільні, дык Францішак надумаў ехаць туды.

І вось, у 1903 годзе увосені пачынае Францішак Аляхновіч эпапэю сваіх натхнёных і поўных рызыкі вандровак. Меў ён тады ужо 20 гадоў. Без замежнага пашпарту, маючы у кішэні усяго толькі 15 рублёў, накіроўваецца ён у Кракаў.

У Кракаве у 1903 годзе драматычная школа не працавала. Ня маючы адпаведнага навучальнага цэнзу, Францішак Аляхновіч паступіў аднак вольным слухачом у Кракаўскі Унівэрсытэт, але правучыўся тутака толькі адзін год, і у 1904 годзе перабраўся у Варшаўскую Драматычную школу пры Музыкальным Таварысьцьве, якую і скончыў у 1907 годзе. У 1907-8 гадох ён езьдзіў з польскім тэатрам па розных мястэчках, у 1908 годзе прыехаў у Вільню, ажаніўся і пачаў працаваць як рэпартэр у розных віленскіх газэтах, а затым выпусьціў у польскай мове свой ілюстраваны гумарыстычны часапіс-тыднёвік „Perkunas".

Тутака у Вільні пасябраваў Францішак Аляхновіч з беларускімі дзеячамі «Нашае Нівы» і у 1910 годзе актыўна увайшоў у беларускі рух, заняўшыся, разам з Аляксандрам Бурбісам (1882—1922), Ігнатам Буйніцкім і Алёізай Пашкевіч-Цёткай (1876—1916), арганізацыяй Беларускага Тэатру. Аднак, на вялікі жаль, доўга працаваць у Беларускім тэатры Францішку Аляхновічу не давялося, бо за адзін з артыкулаў у «Пэркунасе», расейскія улады зачынілі гэты часапіс, а рэдактара пацягнулі да судовай адказнасьці, абвінавачваючы у «зьневажэньні сілаў нябесных» і у «імкненьні скінуць існуючую уладу». Атрымаўшы позву зьявіцца у суд, Францішак Аляхновіч сеў у першы цягнік і зноў без замежнага пашпарту накіраваўся у знаёмы яму Кракаў.

Тры гады, ад 1910-га па 1913-ты, пратуляўся Францішак Аляхновіч па Галічыне, іграючы пад псэўдонімам Монаід у розных польскіх тэатрах. Адзінокага і стомленага вандроўным жыцьцём 30-цігадовага Ф. Аляхновіча моцна пацягнула на бацькаўшчыну у Вільню, дзе жыла ягоная маці (бацька памёр яшчэ у 1904 годзе).

І вось, у 1913 годзе, разьлічваючы на абвешчаную у Расеі амністыю з прычыны трохсотлецьця дому Раманавых, Францішак Аляхновіч вяртаецца у Вільню і зьяўляецца да пракурора. Аднак зусім пазбыцца турэмнае кары яму не удалося, бо пад закон аб амністыі падыйшоў толькі пункт абвінавачваньня у «імкненьні скінуць існуючую уладу», а за другі пункт абвінавачваньня, г. зн. за «зьневажэньне нябесных сілаў», атрымаў год вастрогу. Гэты год турмы «на Лукішках» быў дужа карысным і для самога Фр. Аляхновіча і для разьвіцьця беларускае драматургіі, бо тутака, маючы шмат вольнага часу, напісаў сваю першую п'есу «На Антокалі». Скончыўшы у турме у 1914—1915 г. першую п'есу, ён запланаваў яшчэ шэраг іншых беларускіх п'есаў.

Выйшаўшы у 1915 годзе з «Лукішак», Францішак Аляхновіч апынуўся у вельмі цяжкіх матар'яльных абставінах. Ён малюе шыльды, служыць у міліцыі, працуе потым як кантралёр электрычных лічнікаў ды адначасна ладзіць беларускія спэктаклі, робіць карэктуры у віленскай беларускай газэце «Гоман» і піша новыя п'есы, як «На вёсцы» (1916 год), «Бутрым Няміра» (1916), «Манька» (1917) і «Базылішак» (1917). Непамернае напружаньне і грашовыя нястачы змушаюць яго кінуць галоднае віленскае жыцьцё і выехаць у Чорны Бор пад Вільняй у дзіцячы беларускі прытулак, дзе ён некаторы час працуе вучыцелям. Тутака улетку 1917 году ён піша двухактовую п'есу «Калісь» і дзіцячую аднаактоўку «У лясным гушчары«, якая першы раз была пастаўлена у Чорным Бары на фоне жывой лясной дэкарацыі.

Сцэна і літаратурная праца неадступна цягнуць яго да сябе. Даўшы у трохактавай п'есе «На Антокалі» знаёмае яму асяродзьдзе дробнага віленскага мяшчанства, а у двухактавай п'есе «На вёсцы» накідаўшы ідылізаваны абраз вясковага беларускага жыцьця, Францішак Аляхновіч праз двухактовую п'есу «Бутрым Няміра» перайшоў да драматызаваньня беларускіх гістарычных апавяданьняў, а затым і да драматызаваньня народных казак, як у трохактавай п'есе «Базылішак» ды у ведамай аднаактоўцы «Чорт і баба». Адначасна ён малюе цяжкі быт нашага гарадзкога жыхарства у чатырохактавай п'есе «Манька» і жыцьцё работнікаў у двухактоўцы «Каліcь». Новыя тэмы апаноўваюць усю ягоную істоту. Ён кідае дзіцячы прытулак, зноў вяртаецца у Вільню, працуе тутака у пажарнай камандзе і зноў піша і накідвае новыя пляны. Нарэшце, дачуўшыся у красавіку 1918 году аб шырокай беларускай працы у Менску, ён у чырвені месяцы таго-ж году кідае Вільню, якая ня мела магчымасьці ані падтрымаць яго, як артыстага і драматурга, ані выдаць ягоныя творы, і, пераапрануўшыся за хурмана, перабіраецца праз лінію старога нямецка-расейскага фронту 1915—1917 году і пехатой, босы і абарваны, з параненымі да крыві нагамі, пасьля васьмідзённае падарожжы, зьяўляецца у Менск.

*Францішак Аляхновіч*
*(фото-здымак зроблены ў студзені 1944 г.)*

У Менску у той час добра працаваў Дзяржаўны Беларускі Тэатар, які стварыўся з тэатральнае дружыны «Т-ва Беларускае Драмы і Камэдыі», закладзенае 19 траўня 1917 году, на чале з рэжысэрам Флёрыянам Ждановічам, драматургам Уладыславам Галубком і Усеваладам Фальскім. Прыход Францішка Аляхновіча у Менск унёс у працу тэатру вялікае ажыўленьне. Зьявіўся новы артысты, рэжысэр і драматург, які прынёс новы рэпэртуар, складзены з сваіх уласных п'есаў, яшчэ няведамых у Менску. Ужо першая пастаноўка Францішка Аляхновіча, для якой ён выбраў сваю гістарычную п'есу «Бутрым Няміра», паказала, які моцны талент Заходняе Беларусі загасьцяваў у Менску. Аўтар сам згуляў галоўную ролю баярына Бутрыма Няміры, і сваёй запраўды мастацкай гульнёй зачараваў усіх гледачоў. Невялічкая п'еса гэтая зрабіла дужа моцнае уражаньне на усіх прысутных. Беларускае грамадзтва горача вітала таленавітага дэбютанта.

Маральная падтрымка беларускага грамадзтва і грашовая падтрымка з боку Т-ва «Бацькаўшчына» надалі Францішку Аляхновічу новыя сілы. Ён заканчвае у Менску сваю аднаактоўку «Чорт і баба», якая, як вясёлы водэвіль, адразу заваявала беларускія работніцкія клюбы і вёску. Затым ён піша трохактавую драму «Страхі жыцьця». Прэм'ера гэтай п'есы у тым-жа 1918 годзе у Менску выклікала буйныя спрэчкі у беларускім грамадзтве, бо уся п'еса насычана была шматлікімі сьмерцямі і трагічнай бязвыходнасьцяй жыцьцёвых абставінаў. Аўтару закідалі, што ён згусьціў хварбы. А тым часам, пакуль ішлі спрэчкі аб «Страхах жыцьця», Францішак Аляхновіч пасьпеў ужо напісаць і паставіць новую п'есу, двухактовы драматычны абраз — «Дзядзька Якуб», ды арганізаваў сваю уласную трупу у Менску, для якой дапоўніў п'есу Янкі Купалы «Паўлінка» яшчэ адным актам, які названы быў «Заручыны Паўлінкі».

Вясной 1919 году Францішак Аляхновіч вяртаецца у Вільню і выдае тутака ілюстраваны часапіс «Беларускае жыцьцё» і працуе над тэатральнымі пастаноўкамі. Аднак савецка-польская вайна 1919-20 гадоў, калі Вільня некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі, затым кароткая часовая акупацыя Вільні летувісамі і новы захоп яе польскім войскам генэрала Жэлігоўскага, — бязупынна руйнавалі беларускае грамадзка-эканамічнае і культурна-асьветнае жыцьцё, робячы усе беларускія пачынаньні нясталымі, няпэўнымі і залежнымі ад зьменных вайскова-палітычных абставінаў. Францішак Аляхновіч, як і усе нашыя сьведамыя грамадзкія дзеячы, пасьля кажнай новай зьмены улады, павінен быў распачынаць усё нанова, ад самага пачатку, змагаючыся за беларускую справу. Але Ф. Аляхновіч, з надзвычайнай упартасьцю і з задзіўляючай працаздольнасьцю і жыцьцёвай вытрываласьцю, ні на часіну не пакідае сваёй літаратурнай працы. Нават падчас сваіх вандровак з Вільні у Менск і з Менску у Вільню піша новыя драматычныя творы.

Увосені 1919 году, пасьля захопу Менску палякамі, Аляхновіч зноў накіроўваецца у Менск, каб заапекавацца працаю Менскага беларускага тэатру. Тутака, у сьнежні месяцы 1919 году, заканчвае ён сваю п'есу «Цені», а у 1920 годзе піша дзьве новых п'есы: трохактовую дыдактычную камэдыю з сялянскага жыцьця — «Птушка шчасьця» ды цяжкую п'есу «Няскончаная драма», у аснове якой пакладзены былі у пэўнай меры ягоныя уласныя сямейныя перажываньні.


*Фр. Аляхновіч на Салоўках у 1929 г.*

Пасьля разгрому палякаў і узяцьця Менску бальшавікамі, 11-га ліпеня 1920 году, Аляхновіч зноў вяртаецца у Вільню і спрабуе тутака наладзіць Беларускі тэатар. Сямейка ягоная павялічваецца: замест памёршай дачкі («Няскончаная драма»), ён мае ужо двох сыноў. Канец 1920-га году і увесь 1921-шы год ён шмат працуе у прэсе, у тэатральных пастаноўках і у грамадзкім жыцьці. У лютым 1922-га году зьяўляецца з пад ягонага пяра новая вясёлая чатырохактовая камэдыя «Шчасьлівы муж». Гэта была ужо 15-я п'еса Францішка Аляхновіча за першыя 7 гадоў ягонае драматургічнае працы. Напісана яна была дужа удала: з вялікім веданьнем сцэны і псыхікі, і вельмі спадабалася публіцы.

Выдавецкія магчымасьці у Вільні ніколі ня былі добрымі. Аўтарскія ганарары былі заўсёды мізэрнымі, дык ня дзіва, што Аляхновіч дужа усьцешыўся, калі да яго дайшла вестка аб тым, што у Бэрлін прыехаў беларускі пісьменьнік Цішка Гартны (Жылуновіч) і арганізаваў тамака выданьне беларускіх падручнікаў, нотаў, апавяданьняў і п'есаў, за якія плаціць добрыя ганарары. Аляхновіч сабраў рукапісы яшчэ недрукаваных сваіх п'есаў, перагледзіў ужо друкаваныя творы і надумаўся ехаць у Бэрлін, каб пэрсанальна дагутарыцца з Цішкай Гартным аб выданьні усіх сваіх п'есаў і аб ганарарах за іх.

Як і заўсёды, пры усіх замежных падарожжах Ф. Аляхновіча, ня меў ён дзьвюх галоўных рэчаў: замежнага пашпарту і грошай. Аднак гэта ня было для яго перашкодай. Толькі-што скончыўшы сваю новую п'есу, у лютым 1922 году, выправіўся ён старым выпрабаваным спосабам, пехатой і бяз візы, з Вільні у Коўню, дзе быў тады эміграцыйны беларускі Урад БНР, ад якога ён спадзяваўся атрымаць і замежны пашпарт і грашовую падтрымку на далейшае падарожжа у Бэрлін. Але літоўская палітычная паліцыя заарыштавала падарожніка, пратрымала яго два тыдні у канцэнтрацыйным лягеры і, нягледзячы на захады беларускага прадстаўніцтва і нават літоўскіх установаў, выслала яго назад у Вільню. У тым-жа 1922-ім годзе напісаў Ф. Аляхновіч 16-ю сваю п'есу, трохактовую камэдыю «Пан Міністар», у якой вывеў аднаго з незадачлівых «дзеячоў» пана Вернікоўскага.

Ад 1922-га да 1925-ты год Францішак Аляхновіч не напісаў аніводнае новае п'есы, але затое у сярэдзіне 1924-га году падараваў ён нашаму грамадзтву дужа каштоўную сваю кнігу — «Беларускі тэатар». Кніга гэтая была надрукавана у Вільні і зьяўляецца гістарычным нарысам разьвіцьця беларускага тэатру ад старадаўніх часоў і да 1924-га году. У 1925-ым годзе, у 10-ю гадавіну напісаньня сваёй першай п'есы «На Антокалі», Аляхновіч перагледзіў і пераапрацаваў сваю старую чатырохактовую п'есу «Манька», у якой у вобразе Манькі вывеў у свой час сваю першую жонку Стэфанію Н. Напісаўшы да «Манькі» яшчэ два новыя акты, 3-ці і 6-ты, Аляхновіч даў п'есе і новы назоў — «Дрыгва», пад якім яна і зьявілася у тым-жа 1925 годзе у друку у Вільні.

На гэтай 17-й п'есе, якая апісвае жыцьцё 17-гадовай дзяўчыны, драматургічная праца Ф. Аляхновіча перайрвалася аж на цэлых 17 гадоў. Вінна было у гэтым савецкае ГПУ, якое, скарыстаўшы прыезд пісьменьніка на Акадэмічную Канфэрэнцыю у Менску у 1926 годзе, затрымала яго там, а затым у наступным 1927 годзе арыштавала яго і цэлых 7 гадоў пратрымала у Салавецкім канцэнтрацыйным лягеры. Па выхадзе з лягеру і павароту на бацькаўшчыну, куды ён трапіў толькі таму, што савецкія улады згадзіліся абмяняць яго на арыштаванага палякамі беларускага дэпутата, аўтара беларускае граматыкі Браніслава Тарашкевіча, Ф. Аляхновіч заняўся найперш сваімі успамінамі аб жыцьці у лягеры і напісаў сваю ведамую кнігу — «У капцюрох ГПУ», якая на працягу 1935-1937 гадоў выйшла у Эўропе і Амэрыцы у 7-мі розных мовах.

Посьпех кнігі даў матар'яльную базу для існаваньня Аляхновіча і дапамог яму перажыць той маральны удар, які ён атрымаў у Вільні, калі вярнуўшыся з Салавецкае катаргі, знайшоў сваю сям'ю разбуранай і чужой для сябе. Ён абдумваў ужо новыя тэмы, але захоп Вільні савецкай арміяй у 1940 годзе змусіў яго хавацца аж да 22-га чырвеня 1941 году, калі перад ім зноў адчынілася магчымасьць распачаць сваю літаратурную працу.

У пазамінулым 1942-ім годзе Ф. Аляхновіч нанова перагледзіў сваю першую п'есу «На Антокалі» і, зрабіўшы у ёй цэлы шэраг паправак і зьменаў, надрукаваў яе у сваёй газэце «Беларускі Голас» у Вільні. У 1943-ім годзе ён напісаў ужо зусім новую шасьціактавую і яшчэ з асобным пралёгам п'есу — «Круці, ня круці — трэба памярці!», якая была надрукавана у часапісе «Новы Шлях», пачынаючы ад № 17 (29) па № 24 (36) за 1943 год.

Сялета Францішак Аляхновіч распачаў пісаць свае успаміны аб 1940-ым годзе, у якім ён быў змушаны хавацца ад бальшавікоў, пад назовам «Страшны год». Успаміны гэтыя ужо друкуюцца у часапісе «Новы Шлях», пачынаючы ад № 2 (38-га). Адначасна плянаваў ён кнігу з сваімі успамінамі аб беларускай адраджэнцкай працы у Вільні і у Менску, але рука забойцы 3-га сакавіка перарвала жыцьцё нашага пісьменьніка. Акрываўленая галава ягоная схілілася на незакончаны рукапіс успамінаў «Страшны год», над якім ён працаваў і у свой апошні вечар жыцьця.

*К. Езавітаў.*

# ЗА ТРУНОЮ ФРАНЦІШКА АЛЯХНОВІЧА



*Францішак Аляхновіч у труне.*

Мілая, родная, беларуская Вільня..
Тут нарадзіўся, тут і памёр...
Ты, Вільня, мяне ўзгадавала,
Тут сьніў я дзіцячыя сны!...
Люблю за тваю Цябе долю,
Што сумная страшна была...
Ты пражыла многа болю,
Таксама няшчасна, як я...
Ты бедная, родная маці,
У сэрцы тваім боль-туга...
Уцеху калі нам спазнаці?
Калі згіне гора-бяда?...
За ўсе твае мукі-нядолі
Люблю Цябе я яшчэ болей...

(«Ты, Вільня, мяне ўзгадавала»)

Вільня выкалыхала, выпесьціла і Вільня... прыняла на вечны супачынак. О, Вільня, ці-ж Твая легенда беларускага жыцьця сваімі зачараванымі тонамі зможа у цудоўнасьці нашага нацыянальнага росквіту знайсьці ярчэйшы трагізм жыцьця і сьмерці — як жыцьцё і сьмерць твайго сына Францішка Аляхновіча?... Ці-ж тая куля, якая у пятніцу 3-га сакавіка 1944 году у 8 гадзінаў увечары, у собскім памешканьні прабіла галаву 61-гадовага Францішка Аляхновіча, ня будзе у гісторыі беларускага народу сымбалем праклятцьця на тых, якія забілі аўтара шаснаццацёх беларускіх драматычных твораў? Ці-ж тая нікчэмная і подлая рука, якая скіравала стрэлы у мазгі нашага Францішка Аляхновіча не астанецца, пакуль будзе жыць хаця адзін беларус на зямлі, доказам тых спосабаў і мэтадаў, якімі заклятыі і сьмяротны вораг беларускага народу намагаецца зраніць нас у самае сэрца. Ці-ж зможа схавацца гэтая подлая рука ад яркасьці сьвятла беларускага народнага вызваленьня?... Хто-ж яе укрые? Ці сяньня, ці заўтра, за месяц, ці за год імя і прозьвішча забойцы Францішка Аляхновіча будзе і астанецца найагіднейшай лаянкай для праяваў нікчэмнасьці і подласьці дзеяньняў нашага сьмяротнага ворага.

Забіць чалавека, якога аднэй вінаю была толькі бязьмежная міласьць да Беларусі; забіць чалавека, які усё сваё жыцьцё пасьвяціў для літаратуры свайго роднага беларускага народу — на гэта патрэба ужо не адвагі; на гэта патрэба ужо толькі ня быць чалавекам, а стацца звычайным бандытам. Бо які-ж і у чым быў праступак Францішка Аляхновіча? Ён быў беларускім патрыётам; ён быў беларускім драматургам. Праз усё сваё жыцьцё Францішак Аляхновіч ані на хвілінку не забыўся сваёй Бацькаўшчыны; кажны ягоны крок і чын быў скіраваны і адданы Беларусі. За шэсьцьдзесят адзін год свайго жыцьця Францішак Аляхновіч збудаваў фундамэнтальныя падваліны беларускага тэатру; ён стварыў для Беларусі адну з найгалаўнейшых асноваў беларускага культурнага самастойніцтва — беларускае тэатральнае мастацтва. І за гэта усё, толькі вось за гэта заклятыя і сьмяротныя ворагі Беларусі скіравалі у галаву Фр. Аляхновіча... кулю. Хто хоча цяжка скалечыць жыцьцё беларускага народу, той заўсёды забівае творчую інтэлігенцыю Беларусі. Сьмерць Францішка Аляхновіча, гэта адзін з доказаў бандыцкіх намераў нашых сьмяротных ворагаў. Беларусь гэтых ворагаў добра ведае. Яны ня толькі сяньня сябе паказваюць і выяўляюць свае дзеяньні. Гэтыя праклятыя ворагі за апошнія 30 гадоў паклалі у магілу шмат беларускіх патрыётаў. Гісторыя Беларусі сьпіша усе гэтыя магілы і пабудуе вечны беларускі нацыянальны Пантэон.

А Беларусь жыве, вызваляецца і перамагае — праз любоў і ахвярнасьць сваіх дзяцей. Для беларуса сьмерць ужо не страшная, не запужае ужо нас варожая куля!

Мой родны Край! Старонка сумная! —
За што Цябе любіць? — калі-б спытаўся хто, —
Што адказаць, ня ведаў сам-бы я,
Скуль гэтая любоў? Дзеля чаго? За што?
Камсеньне вострае крывава раніць ногі,
Дрыжыць ў паветры плач старых бяроз...
Хаця мне жудасна, я ня зыйду з дарогі,
Ня кіну край, дзе я радзіўся, рос...
Старонка родная! на што Цябе любіці
І на ахвяру ўсё жыцьцё Табе даваць?
Ці-ж не лепей пад іншым небам жыці,
Забыць Цябе, пакінуць, родна маць?...
Там дзесь сады цьвітуць бязмала праз год цэлы,
Там неба сіняе, нямашака там хмар,
Людзкія тамака здароўем дышуць целы,
І абыймае дух мастацтва дзіўны чар...
Там Вінчы, Рафаэль, Анжэльлё, Тыцыян,
Глядзяць манумэнты там горда ў неба высі; —
У нас — забыты ў полі дзесь курган,
Ды ля дарогі дрэмле стары падгніўшы крыж...
Твой, Беларусь, пачаўся Рэнэсанс цяпер!
Хто ведае, што створыць Твой народ?!
Хоць красак тут няшмат, хоць край, як доля, шэр, —
Зварухнуўшыся раз, дух пойдзе ўсё ўпярод...
І хоць з-за аблакоў пахмурна сьвеціць сонца,
І шчасьця-радасьці ня знойдзеш тут нідзе, —
Загляне Доля яшчэ і ў нашае ваконца,
І Кветка-Папараць яшчэ нам зацьвіце!

Гэтак пісаў Францішак Аляхновіч у вершы «Мой родны край». Хто гэтакімі словамі выказвае сваю мілясьць да Народу і роднае Краіны, той патрапіць аддаць працу і жыцьцё для бацькаўшчыны. Беларускі аглядчык літаратурнае і грамадзкае працы Фр. Аляхновіча бу-



*Беларускія дзеячы нясуць труну з целам Францішка Аляхновіча на могільнік. Па бакох — рады беларускае школьнае моладзі.*



*Перанос труны з целам Францішка Аляхновіча з капліцы да магілы.*

дзе меціь удзячнае заданьне пералічаць і клясыфікаваць дзеяньні гэтага беларускага патрыёты. Усе чыны жыцьця Нябожчыка выплывалі толькі і выключна з аднае крыніцы замілаванасьці да Беларусі.

У сакавіку нарадзіўся і у сакавіку варожая куля перарвала Ягонае творчае жыцьцё. Якая дзіўная субежнасьць! Францішак Аляхновіч прыйшоў на сьвет 9-га сакавіка 1883 году у Вільні.

Варожая рука у Вільні-ж забіла Францішка Аляхновіча. Нябожчык пражыў 61 год без шасьці дзён.

Як я памру, — прабійце сэрца мне калом,
Асінавым калом прабійце вы наскрозь
І закапайце мой глыбока ў зямлю труп
Ды камень, як гару, ўзвалеце мне на гроб,
Каб я устаць ня мог . . .
Ды уцякайце ўсе хутчэй да сваіх кат,
І крыжам пражагнайце хатні свой парог,
І імя вы маё прад ночай ўспамінаць
Забаранеце ўсім: і дзецям, і старым,
Каб я устаць ня мог . . .
Бо ў ноч вясеньнюю, як сівер загудзіць, —
Устану я з магілы,
Страхну з сябе магільны пыл
І пойду на сяло —
Ад хаты да хаты,
У вокны вашы буду паглядаць,
Сон адганяць з вачэй,
Дзяцей пужаць.
На вуснах сьмех замрэ, як гляну у вакно,
Дзіця заплача ў маткі пры грудзёх,
Магільны холад ўсім па скуры прабяжыць . . .
На вёску ўсю найдзе якаясь дур:
Дзіця ў лес пабяжыць Цьвет-Папараць шукаць;
Вясковыя дзяўчаты ўсе пачнуць
Праменьні месяца у косы заплятаць;
А пры дарозе, дзе стаіць за вёскай крыж,
Мужык мацнейшы сук пачне ўжо выбіраць
І дзягу ад парткоў ў пятлю вязаць
Ён будзе ў гэту ноч . . .
А дзед сівы грудзямі ляжа на зямлі,
Рукамі эбнімаць пачне ён свой загон,
Багаславіць ды праклінаці будзе ён,
Прыльнуўшы да грудзей Маці-Зямлі...
Здаволеным, шчасьлівым я сон з вачэй зганю, —
Няхай ня сьпяць, а ў муках хай жывуць,
Ў страшэннай роспачы рукі свае грызуць, —
Няхай ня сьпяць! . . .
Як ужо мне ня будзе хапаць сіл,
Я з віхрам паляту на Лысую Гару,
Там склікаю зусюль начных нячыстых сіл,
Бо сябрам буду іх, як ўжо памру . . .
І дам загад: ляцець, гудзець, трубіць, —
Хай ўсе дрыжаць, моў перад Судным Днём . . .
Праклятцьце ўсім, хто радасьці спажыў,
Бо лёс быў наш — мук доўгі, вечны шлях! . . .

(«Як я памру . . .»)

Так, праўда, сьвятая праўда, выказана у гэтым глыбокім вершы Францішка Аляхновіча. Ягонае жыцьцё, Ягоная праца — мук доўгі, вечны шлях! . . . Гэтакім было жыцьцё нашага, беларускага Мальера. Францішак Аляхновіч — беларускі Мальер. Чым быў Мальер для Францыі, тым Аляхновіч для Беларусі.

*

Вільня ня бачыла яшчэ такіх беларускіх паховінаў, якія былі для Фр. Аляхновіча. Вялікія паховіны былі для пісьменьніка Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага) у 1922 г.; вялікімі былі паховіны для песьняра Казімера Сваяка (кс. Канстантына Стэповіча) у 1926 годзе, але такіх паховінаў Беларуса, якія Вільня убачыла 8-га сакавіка 1944 году для Францішка Аляхновіча — яшчэ ня было. Амаль уся Беларусь прыняла у іх удзел. На чале хаўтурнага паходу пасярод жывых кветак быў крыж; за крыжам школьная моладзь нясла 26 вянкоў, з іх 22 ад беларусаў, 3 ад немцаў і 1 ад ліцьвіноў. На чале быў несены вельмі дарагі вянок ад Прэзыдэнта Цэнтральнае Рады Беларусі — праф. Радаслава Астроўскага; за ім быў несены вянок ад Генэральнага Камісара Беларусі і дальш і дальш вянкі і вянкі. За вянкамі стройнымі чацьвёркамі ішла моладзь з усіх віленскіх беларускіх школаў; за школамі аркестры, за імі духавенства, за якім чатыры кані цягнулі абвіты беларускімі нацыянальнымі сьцягамі караван. За караванам пасоўвалася мора народу, які прыйшоў ушанаваць Францішка Аляхновіча. Гэта былі у поўным значэньні гэтага слова грандыёзныя паховіны беларускага патрыёты.

Над магілаю ад імя усяго беларускага народу разьвітаўся з Францішкам Аляхновічам старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту у Вільні — др. Балеслаў Грабінскі.

Сьпі у роднай зямельцы слаўны беларускі драматург і патрыёта. Памяць аб Табе застанецца вечна у беларускім народзе, а Твая магіла будзе заўсёды мейсцам пілігрымкаў усіх беларусаў.

*Максім Суховіч.*



*Рэфэрэнт беларускае культуры і асьветы пры Генэральным Камісары сп. Марыян Пецюкевіч прамаўляе над магілаю Фр. Аляхновіча.*



*Магіла Францішка Аляхновіча на Кальвінскім магільніку у Вільні.*





# Страшны год

Юр. Монвід

/Успаміны нядаўніх дзён/

*(Працяг)*

Цяжка было знайсьці сьлед чалавека, што трапіў у лапы НКВД. На Лукішках казалі, што арыштаваны мабыць сядзіць у падвале НКВД, а там адказвалі, што яго няма, што трэба шукаць у Лукіскім вастрозе.

Людзей арыштоўвалі не дзясяткамі, ня сотнямі, а тысячамі...

Ніхто, кладучыся спаць, ня ведаў, ці яму удасца праспаць спакойна гэту ноч у сваёй хаце.

*

Начлегаў у мяне было усё менш ды менш. Няма дзіва. Найлепшыя прыяцелі неахвотна прыймалі мяне у сваю хату. І я за гэта ня меў да іх ніякага жалю. Я на іхным мейсцы быў-бы ня лепшы.

Але начаваць недзе трэба.

У гэткім палажэньні чалавек робіцца нахальным.

Нецярпліва я чакаў вясны, калі будзе магчыма начаваць у лесе.

## НАДЗЕЯ

І заўсёды зьяўлялася у галаве пытаньне: як доўга гэта будзе трываць? Добра, калі месяцы. Ну, можна неяк вытрываць, калі год. А што рабіць, калі гэткае палажэньне пратрывае колькі гадоў? А можа гэтак застанецца ужо назаўсёды?!

Адзін раз я спаткаўся на Сьнішках з Улад. Казлоўскім. Мы затрымаліся з боку, на беразе Вяльлі і пачалі гутарку на гэтую тэму.

— Калі можа распачацца вайна? — пытаюся.

— Я думаю, — кажа Казлоўскі, — што не раней як за дзесяць год. Цяпер вайна з бальшавікамі немагчыма...

Божа мой! праз дзесяць гадоў! Хто-ж гэта вытрывае!

А тымчасам усюды і усе гаварылі пра вайну. Розныя палітрукі, упраўдомы на сходах, п'яныя камандзеры, — усе гаварылі аб нямінучай вайне.

Усе бальшавіцкія агенты пагражалі кулаком у бок Нямеччыны і, ня скрываючыся, казалі, што вось-вось пачнецца вайна.

І гэткія змораныя, як я, людзі жылі толькі гэтай надзеяй. Бо бяз гэтай надзеі жыцьцё было-б неўмагату, і калі часам у часіны пэсымізму гэтая надзея слабела, дык сілаў ужо ня было далей хавацца, сілаў да жыцьця ня было і ужо чалавек хацеў выйсьці з падпольля і дабраахвотна аддацца у рукі бальшавікоў: каб хутчэй ужо быў канец...

Але людзі упорыста шапталі: будзе хутка вайна, і гэтай надзеяй падтрымоўвалі сябе...

*

Было нас у Вільні трох салаўчан, гэта значыць людзей, якія былі на салавецкай катарзе і пасьля такім ці іншым чынам вызваліліся з яе.

Др. Ф. П., я і К. С. Апошні уладзіўся за тэхніка і працаваў 60 кілём. ад Вільні у мястэчку А. пры будове мосту. Першы з іх адразу, як прыйшлі бальшавікі, прапаў недзе. Як я пасьля даведаўся, уцякаў праз граніцу, там злавілі яго бальшавікі і пасадзілі у вастрог. Апошні з нашай тройкі абяцаў мне, што, як толькі будзе ваканс, уладзіць мяне за вартаўніка пры мосьце...

*Вольга Тапоља*

*

*За руінамі дзень дагарэў,*
*Сумны месяц за ліпай ўзышоў*
*І маркотна на землю глядзеў,*
*Дзе яшчэ не павысахла кроў...*
*Кроў людзей, што праліта вайной,*
*Кроў мільёнаў пакутных сардэц...*
*Мы пад ліпай сядзелі з табой*
*І гадалі: жыцьцё ці канец?*
*Дзесьці глуха гурчэў самалёт,*
*Вецер ціха лісьцём шалястаў...*
*Ты са мной быў, мой любы пілёт,*
*Ты ціхутка мне ў вуха шаптаў:*
*«Можа заўтра ня жыць нам самым,*
*Хай-жа сёньня каханьне жыве!*
*Мы акупім імгненьнем адным*
*Цэлы век, што ў пакутах імкне.*
*На ўвесь сьвет мы забудзем ўдваіх,*
*Пры табе я душой адпачну,*
*Ў гэты жудкі і слодычны міг*
*Я пяшчотай цябе агарну.*
*Вір пачуцьцяў хай нас паглыне,*
*Мы з табой між руінаў адны...*
*Прытуліся-ж мацней да мяне*
*І забудзься на жахі вайны!*
*Хай сьвядомасьць агорне туман,*
*Хай шаленства каханьня жыве!...»*
*Ў небе хмар праплываў караван,*
*Цёплы вецер гайсаў па траве...*
*Не забыць мне ніколі той час,*
*Ты са мной быў, стаў блізкім, маім,*
*Ясны месяц сьвяціў дзеля нас,*
*Ясны месяц сьвяціў нам адным...*
*«Любы, любы, як добра з табой!*
*Каб ня ты — мне-б ня жыць, ня стрываць*
*Той кашмар, што завецца вайной.*
*О, як хочу цябе я кахаць!*
*Мы адны, бы той месяц між хмар,*
*Сэрцы лічаць кананьне хвілін...*
*Майго сэрца магутны ўладар,*
*Цэлы сьвет замяніў ты адзін...*
*Ты мне даў ад пакут забыцьцё,*
*Сярод жахаў даў шчасьце заznаць.*
*Ты мне стаў даражэй за жыцьцё,*
*Больш, чым даў ты, ня мог ты мне даць!...*
*Для цябе мне сябе не шкада,*
*Я сягоньня жыву, заўтра — не,*
*Наша жыцьце — бы дым, бы вада,*
*І я бачу канец свой на дне...*
*Хай навокала стогны і жуць —*
*Толькі-б быў тут са мною ты сам...*
*Хай мне вечнасьць за сяньня дадуць —*
*Я за вечнасьць яго не аддам!»*

Адзін раз, заглянуўшы у сваю хату, я даведаўся, што К. С. быў у мяне з весткай, што ваканс вольны, што сяньня трэба ехаць. Да адыходу цягніка ужо заставалася мала часу. Я усхапіўся і пабег на вакзал. Пасьпеў. Уздыхнуў з палёгкай, седзячы у вагоне і пакідаючы Вільню, дзе зямля у мяне пад нагамі гарэла. Там, у мястэчку А., будзе шмат бясьпечней.

І я не памыліўся.

## СПАКОЙНАЕ МЕЙСЦА

На беразе рэчкі Мэрэчанкі, два кілёмэтры ад мястэчка А., будавалі мост. Ужо другі год цягнуліся работы, а канца ня было відаць. Былі дошкі, дык цьвякоў не хапала, былі цьвякі, дык іншага нейкага матар'ялу ня было. Адным словам, усё ішло пабальшавіцку.

Вось пры гэтым мосьце я быў назначаны за вартаўніка.

Пры мосьце была будка, дзе перахоўваліся інструманты: пілы, сякеры, ды інш. Тутака, у гэтай будцы на лаве я наладзіў сабе пасьцелю, тутака жыў, абеды варыў на вогнішчы перад будкай. Нідзе ня трэ' было заяўляцца, толькі трэба было запісацца у прафсаюз.

Я пайшоў з гэтай мэтай у мястэчка і там зарэгістраваўся у прафсаюзе як работнік з дзеда-прадзеда і атрымаў прафсаюзную кніжку.

Жылося ціха, спакойна, бясклопатна, а галоўная рэч — бясьпечна. Ніхто тут мяне ня ведаў, нікога са знаёмых я тут не спаткаю, ніхто тут не здагадаецца, хто я.

Быў ужо месяц травень. Ужо было цёпла. Можна ужо было купацца. Блізка быў лес. Пасьля трывожных віленскіх перажываньняў тут я адчуваў сябе, як на летнім адпачынку.

Працы ня было ніякай. Раніцай трэ' было выдаць работнікам інструманты, а пасьля — сядзі сабе з папяроскай на сонцы і раскошуйся жыцьцём.

Было нас трох вартаўнікоў на зьмену, кажны меў па восем гадзінаў дыжурства.

Яны ня цікавіліся шмат маёй асобай, глядзелі на мяне як на свайго таварыша, ні аб чым не распытваючы.

Мой вонкавы выгляд зусім адпавядаў майму становішчу. Сядзеў я босы, вопратка на мне была падзёртая, латаная, дый усёй вопраткай на мне у гэту летнюю гарачыню былі толькі порткі ды кашуля...

Калі хто ішоў ці ехаў каля маёй будкі, — не зьвяртаў на мяне увагі. Але вось раз затрымаліся каля мяне нейкія два праходзячыя інжынэры, каб прыкурыць папяросу. Пачалі гутарку.

— Вы тут хто гэткі?

— Я вартаўнік.

— Гм... Так... Цяпер усё... «былыя людзі» у вартаўнікі пайшлі — заўважыў адзін з іх.

Гэтая гутарка вялася пры адным з работнікаў, што сядзеў пры мне. Той глянуў на мяне падазрона. Пасьля, як пайшлі незнаёмыя, пытаецца:

— Яны вас ведаюць?

— Не. Першы раз бачу.

— А чаму-ж яны гэта?...

Больш не сказаў нічога.

І запраўды я гэтых людзей першы раз бачыў. Хто яны: ворагі ці прыяцелі? — я дагэтуль ня ведаю. Але іхная гутарка была неасьцярожная.

## ШТО ДАЛЕЙ?

Нараз у галаву прыходзіла думка: а што рабіць, як мост ужо будзе закончаны? Бо-ж нават пры бальшавіцкіх тэмпах працы мост урэшце рэштаў калісь будзе збудаваны. А тады зноў шукаць з дня на дзень новага начлегу у Вільні, хавацца як загнаны зьвер і жыць у вечным страху і небясьпецы?

Тэхнік, мой салавецкі камрат, пацяшаў мяне, што уладзіць мяне на зіму работнікам на дарозе. Але для гэтага патрэбны фізычныя сілы і трэба будзе жыць у вёсцы, значыцца, сярод людзей...

## 22 ЧЫРВЕНЯ

Быў цёплы сонечны дзень. Я сядзеў перад сваёй будкай і варыў на вогнішчы сьнеданьне. Глянуўшы на дарогу, я убачыў аднаго з маіх таварышоў-старажоў, які ішоў да мяне.

На зьмену — яшчэ рана. Сяньня нядзеля. Мусіць выйшаў прагулянца.

— Добры дзень!

— Добры дзень!

Чулі?

— Што?

— Вайна.

— Ха-ха-ха! Жартачкі. У нас заўсёды гэткія нязвычайныя навіны.

— Сяньня Молатаў гаварыў па радыё... Вайна!...

— Вы чулі?

— Не, я ня чуў, але мне казаў чалавек, які чуў.

— Вось заўсёды гэтак: я ня чуў, але нехта чуў... Калі вы самі ня чулі, дык і не кажэце...

— Калі усе у мястэчку кажуць.

— Брахня. Яруnда. Ня веру.

Селі. Закурылі. Да нас падыйшоў работнік з суседняй фабрыкі, якая стаяла за мястэчкам, непадалёк ад майго маста. Ізноў:

— Добры дзень!

— Чулі?

— Аб чым? аб вайне?

— Але.

— Не паверу...

Па дарозе з боку мястэчка паказаўся нейкі вэлясыпэдысты. Відаць было, як моцна націскаў педалі, сьпяшаючыся. Едзе у кірунку маста, хоць дарогі праз мост няма, бо яшчэ нават падлога не пакладзена. Чаго яму сьпяшацца у гэты цёплы, сьвяточны дзень? Куды імкнецца гэты спацелы, чырвоны, зморааны вэлясыпэдысты?

Параўнаўшыся з намі, саскочыў са сваёй машыны.

Гэта быў нейкі малады жыдок, якога я першы раз у жыцьці бачыў.

— Хто тут сторож?

— Я! — адказваю, падняўшыся са сваёго мейсца і падыходзячы яму на спатканьне.

— Вы сторож? Вы стойте на этот мост, не эдхадите, чтоб чаго тут не падлажылі... На вашу ответственность эты мост...

— Слушаю-с.

Незнаёмы жыдок сеў на сваю машыну і паехаў назад, гэтак сама сьпяшаючыся, як раней.

*

Цяпер мне стала ясна. Цяпер я паверыў. З радасьці я нават забыўся спытацца жыдка, хто ён і ад імя каго дае мне загад. Ці ня усёроўна? Самае важнае — вайна! Канец маіх мукаў, канец бадзячага жыцьця, я буду магчы вярнуцца у сваю хату і жыць як чалавек. Ужо чырвоная нечысьць не дасягне мяне.

*(Працяг будзе)*

---

Ул. Клішэвіч

*

*Пацалуй мяне раз, каб агонь не пагас*
*Назаўсёды ў хвіліну растаньня.*
*А надыйдзе той час, будзе шчасьцем для нас,*
*І мы сыйдземся зноў на спатканьне.*

*А цяпер мне пара... Ярка зоры гараць...*
*Паглядзі на сьвятое міганьне...*
*Выплыў месяц якраз над ракой на папас*
*І Вэнэра прыйшла на гуляньне.*

*Пацалуй-жа хоць раз, каб агонь не пагас*
*Назаўсёды ў хвіліну растаньня.*
*А надыйдзе той час, будзе шчасьцем для нас,*
*І мы сыйдземся зноў на спатканьне.*

*15. 9. 43 г.*

Р. Крушына

## ПАЯСОК

*Мне случанка падарыла*
*Найпрыгожы паясок.*
*Пачуцьцёвай процьму сілы*
*Выбраў вытканы кусок.*
*Зацьвілі на кажнай нітцы*
*Мары ткальлі маладой.*
*Ёй вузор спазорны сьніцца,*
*Шоўк ільсьніцца пад рукой.*
*І мітусяцца ўразбродку*
*Зоркі ў зыркім пояску,*
*І праменьні пасяродку*
*Прабягаюць па шаўку.*
*Краскі, крыжыкі, шмат рысак*
*Чырванеюць па баках.*
*Палымнеець ясны прысак —*
*Беларускі даўні бог.*
*Сыплець іскрамі Ярыла*
*Зь ніцяў золата пясок...*
*Гэты слаўны паясок*
*Мне случанка падарыла.*

*10. 1. 44 г.*

---

## Нямецка-беларускія размовы

**Абазначэньне вымовы нямецкіх словаў беларускімі літарамі:**

а:, э:, і:, у:, о: — вымаўляць працяжна;
г' — як г у слове ганак ці лацінскае g;
ю — як і, але з выцягнутымі вуснамі;
ӧ — як э, але з выцягнутымі вуснамі;
нг — як н, але вымаўляць праз нос;
усе іншыя літары — як і беларускія.

Ich muss einen Brief schreiben (іхь мус áйнэн брі:ф шрáйбэн). — Мушу напісаць ліст.

Ich schreibe nach Hause (іхь шрáйбэ нáх гáузэ). — Пішу дахаты.

Haben Sie eine doppelte Postkarte (гá:бэн зі: áйнэ дóпэльтэ пóсткартэ)? — Ці мáеце палвóйныя паштоўкі?

Die schreibe ich mit dem Kopierstift (ді: шрáйбэ іхь міт дэм копі:рштіфт). — Тыя я напішу капіравальным алавіком.

**Schuhmacher (шý:махэр) — Шавец**

Ich brauche ein Paar Schuhe (іхь брáўхэ айн па:р шý:э). — Мне патрэбна пара ботаў.

Sehen Sie nach, ob Sie mein Mass schon haben (зэ́:эн зі: нах, об зі: майн ма:с шо:н гá:бэн)? — Паглядзіце, можа маеце ужо гатовыя боты майго памеру?

Wie sollen sie sein, schwarz oder gelb (ві: зóлен зі: зайн, шварц óд:эр г'эльб? — Якія жадаеце: чорныя ці жоўтыя?

Schwarz (шварц). — Чорныя.

Nehmen Sie mir das Mass zu einem Paar Stiefel (нэ́:мэн зі: мі:р дас ма:с цу áйнэм па:р шті:фэль). — Здыміце з маёй нагі мерку на пару ботаў.

Machen Sie mir dieselben weit genug; nicht zu eng (мáхэн зі: мі:р дізэ́льбэн вайт г'эню́:к; ніхьт цу энг). — Зрабіце мне іх дóсыць вольныя, не занадта вузкія.

Die Absätze nicht zu hoch (ді: áбзэцэ ніхьт цу го:х). — Абсацы не завысокія.

Ich will nur gutes und weiches Leder haben (іхь віль ну:р г'ý:тэс унт вáйхес лé:дэр гá:бэн). — Хачу толькі, каб скура была добрая і мяккая.

Wann sind sie fertig (ван зінт зі: фэ́ртіхь)? — Калі яны будуць гатовыя?

Zu welchem Preise (цу вэ́льхэм прайзэ)? — Якáя цанá?

Schuhwerk ist hier teuer; aber gut und dauerhaft (шý:вэрк іст гі:р тóйэр; áбэр г'у:т унт дáўэргафт). — Абутак тут дарагі, але добры і трывáлы

Die Stiefel scheinen zu eng zu sein (ді: шті:фэль шáйнэн цу энг цу зайн). — Здаецца, што боты занадта вузкія.

Belieben Sie sie anzuprobieren (бэлі:бэн зі: зі: áнцупробі:рэн). — Прымерце іх, калі ласка.




# СБМ — на ахове здароўя

Дразды — дзявочы лягер Саюзу Беларускае Моладзі. Ён знаходзіцца у 4-х кілёмэтрах ад гор. Менску.

Клопатамі нямецкага кіраўніцтва два гаспадарскія будынкі былога савецкага саўгасу належна прыстасаваныя. Перабудаваныя пакоі. Праведзены вадаправод, зроблена каналізацыя. Узывальня мáе шмат крантаў і душавыя саскі. Выгодная, сьветлая кухня. Простае, але выгоднае абсталяваньне.

Мінулым летам тут навучалася сельскагаспадарскай рабоце і хатняй гаспадарцы 28 юначак з заходніх абшараў Беларусі.

Увосені тут рыхтаваліся да працы у дружынах малодшых юначак школьніцы г. Менску.

З 3-га да 20-га сьнежня 1943 г. тут набывалі веду у галіне культурнае працы (хормайстэрства, тэатральнае мастацтва, беларускія скокі) найбольш здольныя да гэтага юначкі СБМ з усходніх і заходніх абшараў. Штотыднёвыя радыё-перадачы з гэтага лягеру знаёмілі сьвет з дасягненьнямі юначак СБМ.

Сяньня у лягеры «Дразды» праводзіцца курс іншага зьместу.

Улічваючы, што наша бацькаўшчына на сваім гістарычным уздыме павінна выправіць хібы мінуўшчыны ва усіх галінах жыцьця, ведаючы наколькі нізкі узровень санітарнае веды у народзе і, нарэшце, узьняўшы змаганьне за вызваленьне бацькаўшчыны ад эпідэміяў — спадчыны ейнага бяскультур'я, — кіраўніцтва юначак СБМ арганізавала тут курс падрыхтовы кадраў юначак да службы аховы здароўя народу.

З 13-га студня г. г. у Драздох навучаюцца 32 юначкі з Смалявічаў, Іванцавічаў, Асіпавічаў, Халойсьнічаў, Лагойску, Талачына, Ліды, Крупак, Клецку, Несьвіжу, Грэску, Ляхавічаў, Рудзенску, Койданава, Семежава, Менску.

Працоўны дзень юначак пачынаецца а 7-ай гадзіне раніцы. Устаюць бадзёра, паводля сыгналу. Душ ураньні прыемна асьвяжае. Пасьля кароткай спартовай зарадкі — сьнеданьне. Па ім — развучваюць беларускія народныя песьні. Іх многа. Кажная дзяўчына прывозіць з свае акругі, з свайго сяла найбольш знаныя песьні. Яны абавязкава усёй грамадой развучваюцца і з разьездам юначак гучаць па усіх кутках нашага краю, узбагачваючы рэпэртуар яговых пяюньняў. Тут-жа кіраўніцтва лягеру знаёміць юначак з той новай беларускай песьняй, якая спэцыяльна для СБМ выходзіць з-пад пяра кампазытараў: Шчаглова, Туранкова, Іванава, Валынчыка ды інш.

Пасьля гадзіны сьпеваў — тэарэтычныя заняткі лекара. Заняткі пастаўлены сур'ёзна. Зьмястоўная праграма ахоплівае усё неабходнае, што можа прыдацца юначкам на іхным самастойным шляху працы па ахове здароўя народу. Атрымліваюць веду з анатоміі, фізыялёгіі. Веда аб гігіене чалавека. Усе спосабы першае дапамогі у нешчасьлівых выпадках і пры атручваньнях. Веда з сымптаматыкі эпідэмічных захвораньняў і шляхі змаганьня з імі. Догляд за хворым. Перавязкі. Прасьцейшыя лекі. Сваеасаблівасьці жаноцкага арганізму, дапамога пры родах, палавыя хваробы.

Побач з спэцыяльнай мэдычнай ведай, юначкі праслухоўваюць даклады палітычна-узгадавальнага зьместу. Усьведамляюць задачы і структуру СБМ. Знаёмяцца з арганізацыяй моладзі і ейнаю працай для народу у Нямеччыне.

Вялікая увага на курсе аддаецца на самастойную практычную працу юначак. У вячорныя гадзіны яны праводзяць «вячоркі» — дзявочыя зборкі, на якіх пачарзе робяць рэфараты на тэмы: «Лекар — самаадданы ідэалісты», «Твой абавязак быць здаровай» і інш.

На некаторыя дні юначкі прыязджаюць у г. Менск для праводжаньня практычнае працы: знаёмяцца з работай хірургічных габінэтаў у гарадзкіх амбуляторыях, улучаюцца у супрацьэпідэмічную кампанію, што праводзіцца у горадзе: робяць абсьледаваньне чысьціні менскіх школьнікаў.

Юначкі ладзяць вечары сустрэчы з студэнтамі менскае мэдычнае школы, даюць канцэрты сваёй самадзейнасьці у нямецкіх лязарэтах. Апошняе — ёсьць стылем працы кажнага лягернага курсу юначак. Яны імкнуцца ня толькі атрымаць веды для сябе, але даць ад сябе — грамадзтву. Кажны курс, як правіла, наведвае лязарэт, або беларускі батальлён, з якім у СБМ — непарыўная лучнасьць.

Значную частку часу юначкі у лягеры аддаюць спорту. Любяць займацца гімнастыкай на вольным паветры.

Шмат сьмеху, шмат весялосьці, што аздабляе насычаны працай дзень юначак.

Кухню абслугоўваюць пачарзе, навучаючыся у ёй прыгатаўленьню здаровай і смачнай ежы.

Свае вольныя гадзіны у лягеры юначкі аддаюць на падрыхтоўку да экзамэну, якім будзе закончаны курс. Кажная хоча здаць экзамэн «на выдатна», бо ведае, што краіна паклікала іх і даручае ім вялікую і пачэсную працу: узьняць санітарна-гігіенічны узровень народу, ахоўваць яго ад хваробаў і заўчаснае сьмерці.

Прайшоўшы курс, юначкі, як і на папярэдніх курсах, зложаць прысягу на вернасьць бацькаўшчыне. Праз радыё раскажуць сьвету аб сваіх дасягненьнях і мэтах, і узброеныя ведаю і верай у свае сілы, разьедуцца, каб пачаць сваю ганаровую службу.

Гэта ёсьць пакуль-што першая калёна змагарак за здароўе. Але яна не апошняя. Усьлед за гэтым курсам пачынаецца другі, паводля ідэнтычнай праграмы. Ва усіх акруговых цэнтрах плянуецца праводжаньне гэткіх-ж курсаў і адчыненьне аднагадовых курсаў мэдычных сясьцёр з ліку сябровак СБМ.

Шлях, на які стала наша бацькаўшчына — верны: яна ідзе да свае новае славы, ідзе да агульнае сям'і эўрапэйскіх народаў. Моладзь верыць у гэты шлях і таму ейныя лепшыя прадстаўнікі і прадстаўніцы прагавіта цягнуцца да СБМ, які рэалізуе іхныя ідэі, дае усе палымнеюць адным жаданьнем: «усе сілы на службу народу».

Гэтых сілаў багата!

Пад сьціплым уніформам вайсковага часу, у які апранутыя сяньня сяброўкі СБМ, б'ецца палымністае сэрца, поўнае любасьці да свае бацькаўшчыны і у ейны гонар ахвяруецца гэтае сэрца.

Над працай юначак шугае родны сьцяг з сымбалем веры, працы і змаганьня.

Пад гэтым сьцягам рыхтуецца сяньня у жыцьцё першая калёна юначак службы аховы здароўя свайго народу.

Упэўненыя у іх!

Жадаем ім посьпеху!

Хай жывуць!

*Н. Абрамава,*
*Кіраўнічка юначак*
*пры Кіраўнічым Штабе СБМ.*



# З жыцьця Язэпа Лёсіка

## УСПАМІНЫ БРАТА АНТОНА

*(Заканчэньне.)*

Вельмі зьдзекваўся з Язэпа жыд Валабрынскі. Ён насьмяхаўся нават з таго, што Язэп камусь калісь сказаў: «Я вельмі жадаю, каб каля хаты кажнага беларуса былі садок і кветнік, а сама хата была добрая, сьветлая і чыстая».

Гэтыя словы Язэпа палічылі за «кулацкія» імкненьні.

І усе гэтыя зьдзекі і кпіны рабіліся жыдам смакуючы і з асабліваю зларадасьцяй.

Цяжка гэта успамінаць, бо было вельмі прыкра і агідна слухаць, як зьмешвалі з гразёю вялікія імкненьні беларускіх дзеячоў, палкіх патрыётаў, якія аддалі усе свае сілы, а некаторыя і жыцьцё на карысьць сваёй бацькаўшчыны.

На мітынгу была адмысловая брахня ад пачатку да канца. Дагаварыліся да таго, што іх называлі зраднікамі. Але каму яны зрадзілі?

Галоўныя абвінавачваньні былі ілжывыя і прыдуманыя сьледчымі і пракурорамі — паслугачамі ГПУ.

Так беларускіх дзеячоў абвінавачвалі у тым, што яны імкнуліся далучыць Беларусь да панскай Польшчы і з гэтаю мэтаю зносіліся і трымалі лучнасьць з Віленскім цэнтрам і што ужо быў складзены сьпіс будучых міністраў Беларусі, прычым Язэпу Лёсіку прапанавалася пасада міністра асьветы. На самой-жа справе у часы бальшавіцкай улады яму зусім ня было часу думаць і рабіць што іншае, апроч працы над падручнікамі беларускае мовы для школ, над беларускім правапісам і у дабавак — чытаньне лекцыяў ва Унівэрсытэце і Пэдагагічным Тэхнікуме і на розных курсах. Сюды трэба яшчэ аднесьці працу у штодзённым друку і у часапісах. Але бальшавіком трэ' было змайстраваць тэатральны працэс, падобны да працэсу у Маскве над так званымі «шкоднікамі» і «ворагамі народу».

На падобных працэсах тыя, каго абвінавачвалі, пад прымусам і катаваньнем узводзілі на сябе усялякія паклёпы і абвінавачвалі сябе у тым, у чым яны былі зусім невінаватыя. Гэтага дабівалася ГПУ зрабіць і у Менску.

На чале ГПУ стаяў жыд Рапапорт і бальшыня агентаў — былі жыды. Вёў справу беларускіх нацыяналістых прысланы з Масквы жыд Агураў. Гэты жыд рабіў усе захады, каб «тэатральны» працэс удаўся, але нічога зрабіць ня змог.

У лютым 1931 г. прадбачыўся судовы працэс над беларускімі дзеячамі, але прайшоў люты, прайшоў сакавік, а працэсу не удалося зрабіць. У канцы красавіка сталася ведама, што усе беларускія дзеячы у адміністрацыйным парадку будуць высланыя з Беларусі. Так і было зроблена. Язэпа Лёсіка выслалі на пяць гадоў у Саратаўскую губэрню у г. Аткарск на Волзе. Тут яму было дазволена працаваць у пэдагагічным тэхнікуме, дзе ён выкладаў расейскую мову і літаратуру. Потым Язэп перайшоў у такі-ж тэхнікум у Дубоўцы, таксама на Волзе. Жыў ён там у матар'яльных адносінах нядрэнна і толькі у першы год атрымоўваў некаторую дапамогу ад родных. Калі скончылася пяць год ссылкі, Язэп думаў, што можна будзе вярнуцца на Беларусь. З гэтаю мэтаю ён у 1935 і 1936 г. г. прыязджаў у Менск і быў у НКВД, але як і трэ' было думаць, нічога не дабіўся: яму і пасьля пяці гадоў высылкі не дазволілі жыць на Беларусі.

Мяне цікавіла, якім чынам ён падпісаўся пад такім абвінаваўчым актам, калі за сабою такой віны не адчуваў. Бяручы пад увагу, што было сурова забаронена, пад пагрозаю пакараньня сьмерцяй, гаварыць аб тым, як адбываліся у бальшавікоў выпыты, Язэп на гэтую тэму не гаварыў, толькі сказаў: «Калі-б падалі мне падпісаць свой сьмяротны прысуд, то я падпісаў-бы».

У апошні раз бачыў я Язэпа улетку 1936 г. Ён значна узмацнеў, хадзіў бяз палкі і выглядаў зусім здаровым. Відаць, стэповы волскі клімат быў на карысьць ягонага здароўя, і у той час ніяк нельга было думаць, што праз два гады ён можа памерці.

Працаваў Язэп у ссылцы таксама напружана, бо прышлося выкладаць ужо расейскую мову і літаратуру. Ён і там карыстаўся вялікім аўтарытэтам і пашанаю як з боку настаўніцкага складу, так і з боку студэнтаў, якія з глыбокім жалем праводзілі яго, калі ён пераходзіў у другі пэдагагічны тэхнікум.

Не адчуваючы у ссылцы матар'яльнай нястачы, ён вельмі адчуваў сваю адарванасьць ад роднае глебы, ад сваёй дарагой для яго бацькаўшчыны, ад роднай прыроды і усяго роднага і сумаваў аб гэтым. Гледзячы на безьлясныя стэповыя роўнядзі волскага саратаўскага краю, Язэп Лёсік з вялікім сумам пераносіўся на далёкую радзіму, на родныя палеткі, у сасновыя лясы і зялёныя гаі. Перад ягонымі вачыма заўсёды уставалі прыгожыя малюнкі роднага краю, беларуская вёска з яе жыхарамі, лясы і пералескі, рэчкі і вазёры і усё тое, у чым ён быў так замілаваны.

І здавалася яму, што ён чуе і мілагучную беларускую мову, якую у Менску «слухаў як музыку». Асабліва было яму цяжка пераносіць высылку з Беларусі і ягонае сям'і. Змагаючыся за чысьціню беларускае мовы, жывучы на Беларусі, Язэп і у сваёй сям'і ахоўваў беларускую мову ад засьмечваньня яе расейшчынай і таму ня любіў, калі да ягоных дзяцей заходзілі другія дзеці, якія гаварылі парасейску. А у ссылцы дзецям Язэпа прышлося вучыцца парасейску, а потым і быць за настаўніцаў у расейскіх школах. Страціўшы надзею вярнуцца на Беларусь, Язэп стаў імкнуцца хоць наблізіцца да яе. Выпадкова ён сустрэўся з навуковым працаўнікам з Бранску, які адразу убачыў у Язэпе значную навуковую сілу і таму прапанаваў яму перавесьціся у Бранск, значыцца бліжэй да Беларусі. Язэп гэтую прапанову прыняў з вялікаю радасьцяй.

У Бранску яму не удалося знайсьці падыходзячага становішча і яго накіравалі у Навазыбкаў, дзе прапанавалі становішча настаўніка у школе каля станцыі Злынка. Гэта было у 1936 г. Ад Злынкі недалёка да Гомеля і таму Язэп з сям'ёй часта езьдзіў у Гомель, каб паглядзець беларускія тэатральныя пастаноўкі і хоць такім чынам адчуць сваю блізкасьць да роднай Беларусі. Але Язэпу не давялося тут закончыць і навучальнага году. НКВД патрабавала неадкладнага выезду туды, куды ён быў высланы, г. зн. зноў у Саратаўскую губэрню, дзе ён пражыў ужо пасьля гэтага ня больш двух гадоў.

Наведваньне Язэпам Менску, перасяленьне у Злынку, бліжэй да Беларусі, а галоўнае зварот да НКВД з просьбаю дазволіць жыць яму на Беларусі, — усё гэта павяло да таго, што НКВД ня спускала з яго вачэй і заўсёды мела яго на увазе.

Нязначны выпадак сутычкі аднаго камсамольца-студэнта з Язэпам на пэдагагічным грунце — з прычыны дрэннай адзнакі — прывёў да таго, што знайшлі прычэпку, зрабілі ілжывы данос на яго у справе працы у пэдагагічным вучылішчы. А гэта было у часы яжоўшчыны, калі у Менску рабілі вялікія арышты усіх, хто меў хоць якое-колечы дачыненьне да беларускае справы. У 1938 г. Язэп зноў быў арыштаваны і пасаджаны у саратаўскую турму. У гэты час ён быў зусім здаровы і нельга было думаць, што неўзабаве памрэ. Але не прайшло больш году, як жонка атрымала з турмы паведамленьне, што Язэп памёр.

Загадка ягонай сьмерці у Саратаўскай турме крыху высьвятлілася, калі аддалі жонцы тое з адзежы, што засталося ад Язэпа. У гэтым ліку аддалі і гнілыя камашы. Калі рамень мог згнісьці, значыць Язэп сядзеў у якойсь мокрай камэры, відавочна з мэтаю барджэй зьвесьці яго з гэтага сьвету. Магчыма, што ад такіх цяжкіх турэмных умоў вярнулася ягоная старая хвароба, якая пры адсутнасьці дапамогі давяла да сьмерці, а магчыма адбылося і што горшае.

Паміраў Язэп Лёсік пры вельмі цяжкіх абставінах: у турэмнай камэры, у выгнаньні, на чужыне, бяз родных і знаёмых і далёка ад дарагой для яго радзімы, за якую ён аддаў сваё жыцьцё. Апошнія дні жыцьця Язэпа засталіся таямніцаю, як таямніцаю засталася і ягоная магіла, бо дзе пахаваны Язэп Лёсік, жонка і дзеці не маглі даведацца.

*Антон Лёсік.*

---

*Алесь Салавей*

*

*(Уладзімеру Глыбіннаму).*

*Культура — азнака вышэй усяго,*
*Мастацтва — красою яе надарыла;*
*Ніколі ня блекне тварэньне таго,*
*Хто ім ахвяруе і веду, і сілы.*

*Рыга, 6. II. 1944 г.*

*Р. Крушына.*

### НА РОСТАНІ

*Сьціхла жарская трэль салаўя, —*
*Сэрэнада мая недапетая...*
*Расьцьвітала ты, краска мая,*
*Разьвітальнаю ласкай сагрэтая.*

*Расьцьвітала ў дзявочай красе.*
*Ля ракі, у траве пад ракітаю,*
*Ня фіялкі глядзелі ў расе —*
*Твае вочы, сьлязою амытыя.*

*5. 2. 44.*



# З ВЫРАЮ

Лібрэта Натальлі Арсеньневай

*(Працяг)*

*(На сцэну выходзіць Марка з касой, ягоная жонка Марыля і дачка Настуля з граблімa і полуднем. За імі пляцецца Сьцяпан — паджылы, пузаты багатыр, што мае намер сватацца да Настулі. Настуля расьцілае на авансцэне абрус і Маркава сям'я, Сьцяпан, дзед і Пятрусь сядаюць палуднаваць.)*

МАРКА: Увіхайся, дачушка!

СЬЦЯПАН *(Любуецца Настуляй, якая раскладае лыжкі і хлеб.)*:
Ой, ручкі вы мае!
Ой, залатыя ручкі! *(Хочучы дапамагчы Настулі, папіхае яе і аблівае ёй рукі халадніком.)*

НАСТУЛЯ: Ой, што робіш!

СЬЦЯПАН: Золатка...

НАСТУЛЯ: Табе адно золата ў галаве!
Ня маеш яго досыць?

СЬЦЯПАН: Золата? Хто-ж калі мае досыць золата?
Гэй, золата, золата, золата!
Хто золата мае — хлеба ня пытае,
Атопкаў ня носіць, па шчасьці не галосіць!
Хто золата мае — нядолі ня знае.
Захоча — гарэлку п'е,
Захоча — дык жонку б'е,
Захоча — рагоча,
Ўсё робіць, што хоча!

ПЯТРУСЬ *(Горка.)*: Ты, ды Кацярына —
Усім сваім золатам у вочы лезеце!
*(Кідае лыжку і перастае есьці.)*

СЬЦЯПАН: Бо што за жыцьцё — ў бядзе?
Ці-ж ня праўда, Настуля? *(Хоча яе абняць.)*

ПЯТРУСЬ *(Ускаквае.)*: Рукі кароткія, багатыр!
*(Кідаецца на Сьцяпана.)*

СЬЦЯПАН *(Дрыжучы ад страху.)*:
Што з табою?
Блёкату аб'еўся?
Ба... ра.. неце!

МАРКА: Гэй, шалёны! Хлопцы, адцягнеце яго!

НАСТУЛЯ: Ой, Божа-ж мой! Пятручок, чаго ты?

ДЗЕД *(Срога.)*: Пятрук, кінь, кажу!

ПЯТРУСЬ *(Цяжка дыхаючы.)*: У, гад, мяшок залаты!
*(На крык зьлятаюцца хлопцы і адцягваюць Пятруся ад Сьцяпана. Пятрусь вырываецца з іхных рук і уцякае. Хлопцы за ім. На сцэне часінку усе маўчаць.)*

ДЗЯЎЧАТЫ: Што гэта зь ім?

МАРКА: Гэта ён з гарачыні!
От, варыць, як у гаршчку!

СЬЦЯПАН: Шалёны! Яшчэ вас калі пазабівае!
Вон яго і ўсё!

МАРКА: Сірата-ж ён...

КАЦЯРЫНА: Ён там бацьку мае...

МАРКА: Пайшоў у сьвет і няма.

МАЦІ: Мо' загінуў дзе?

ДЗЕД: Калі жывы — дык вернецца!
Заўсёды птушка ў роднае гняздо
З выраю варочаецца.
А роднае-ж гняздо ягонае тут,
Між намі!
*(Усе паволі устаюць і бяруцца за працу.)*

ДЗЕД: *(Астаўшыся адзін із Настуляй, задумлёна глядзіць у неба.)*
Эх ты вырай, вырай,
Залаты, далёкі.
Колькі ўзяў ты шчырых
Хлопцаў сінявокіх.
Па багацьце й долю
З нашых шэрых хатаў
Іх зьляцела столькі
Гора й беды латаць.
*(Памаўчаўшы і закурыўшы люльку.)*
Ды горкі й нясмачны
Хлеб чужацкі неяк.
Нам чужое сонца
Не залоціць веяк.
За імглою мораў
Сьнім мы край свой шчыры.
Серабраны, зорны,
Эх ты вырай, вырай!
*(Паволі адыходзіць.)*

НАСТУЛЯ *(Бярэцца зьбіраць лыжкі і міскі, але кідае і з непакоем разглядаецца.)*:
Але дзе-ж Пятрук?
Каб чаго благога сабе не зрабіў?
«Ня вей, буйны ветру,
Ня вей у лагчыне.
І так маё сэрца
Смуціцца і стыне.
Лягла балачына
На думкі, на песьні,
І гэтак ім сумна,
І гэтак ім цесна.
Ледзь сонца узыйдзе,
Ледзь ранішні вецер
Пачне калыхаці
Зялёнае вецьце, —
Ужо залівае
Мне сэрца трывога.
Чагось я чакаю,
Дзіўнога, благога.
Адкуль яно прыйдзе? *(Разглядаецца.)*
З пад зыркай пагары?
З пад ніў васільковых,
З лільлёвых гушчараў? *(Уздыхае... Памаўчаўшы...)*
Да позная ночы стаю я ля весьніц,
Ня сьпіцца мне, сэрцу — і сумна, і цесна.
Нібы яно сохне па нечым, ці стыне?
Ня вей-жа ты, вецер, ня вей у лагчыне!»

ПЯТРУСЬ *(Ціха.)*: Настуля! Настуля!

НАСТУЛЯ *(Адварачваецца, з палёгкай.)*:
Гэта ты! Ну, дзякуй Богу!
А я ўжо баялася!

ПЯТРУСЬ: Даруй, Настуля!
Ня мог я сьцярпець,
Каб ён абдымаў цябе!
А пойдзеш за яго —
Заб'ю, заб'ю яго!
Дальбог!

НАСТУЛЯ *(Зь непакоем.)*: Ды што з табою?

ПЯТРУСЬ: Няўжо-ж ня бачыш ты?
Няўжо-ж ня хочаш бачыць?
Цябе-ж кахаю я... Дзяцьмі,
Калі гулі вятры пад хатай,
І дождж у шыбіны званіў, —
Ня раз да сэрца прытуляў,
Цябе я, любае дзіцятка!
Дзед ціха казку баяў нам
Аб ведзьмарох і чараўніцах,
Аб лісцы, пеўню і катку,
І аб вадзе жывых крыніцаў.
Пасьля — мы пасьвілі ўдваіх...
Васновай раніцаю срэбнай
Цябе я грэў і атуляў
Ня раз сярмяжынаю зрэбнай...
З табой вазілі мы снапы,
Вагонь распальвалі ў асінах.
Ты ўжо тады была маёй, —
Хоць і ня ведаў я, дзяўчына!
Цяпер я ведаю...
Алё, цябе кахаю я, кахаю!

НАСТУЛЯ: І я-ж люблю цябе...

ПЯТРУСЬ: О, не! *(Ціха.)*
Маёю жонкай будзь, галубка!

НАСТУЛЯ: Пашто? Ці-ж блага нам цяпер?

ПЯТРУСЬ: Не, не кахаеш ты мяне,
Дзіцятка горкае яшчэ ты... *(З пяшчотай.)*
Калісь даўно, даўно, дзяцьмі,
Калі гулі вятры пад хатай,

НАСТУЛЯ: Ня раз да сэрца прытуляў
Ты мяне — горкае дзіцятка.

ПЯТРУСЬ: З табой вазілі мы снапы...

НАСТУЛЯ: Вагонь распальвалі у вольхах.

РАЗАМ: Ты (я) ўжо тады была маёй (тваёй),
Хоць і ня ведаў (ня ведала) наколькі!
*(Прытуляюцца да сябе... Настуля даверліва кладзе галоўку на плячо Пятруся.)*

ДЗЕД *(Падсьмейваецца.)*: Дык ты жывеш?
Яшчэ й пяеш?
*(Убачыўшы дзеда, Пятрусь і Настуля, засароміўшыся, адскакваюць адно ад аднаго.)*

ПЯТРУСЬ *(З прыкрасьцяй.)*: Я... дзядуля..

ДЗЕД: Ой, дзеткі, дзеткі!

НАСТУЛЯ *(Прымільна)*: Дзядуля, не кажы нікому!

ПЯТРУСЬ *(Горача)*: Кахаю яе і не аддам нікому!

ДЗЕД: Маладосьць, маладосьць!
*(Надыходзяць хлопцы і дзяўчаты.)*

ХЛОПЦЫ: Вунь і Пятрук!
Ну што, астыў?

ДЗЯЎЧАТЫ: Пятручок, чаго ты гэткі злосны?

КАЦЯРЫНА: Ажэніцца, адменіцца!

ХЛОПЦЫ: З табою можа?

КАЦЯРЫНА: А хай-бы і са мной!
Гэй, гэй! *(Прытупвае.)*

ХОР: Судзі Божа восені дажыцца,
Із хлопчыкам ажаніцца,
Туманчыкам апусьціцца.
Туманчыкам ціхусенькім,
А дожджыкам драбнюсенькім.
Добра табе, туманіку,
Быстрыя рэкі мыючы,
Жоўтыя пяскі рыючы...

КАЦЯРЫНА: Добра мне, удовачцы
За другога замуж ісьці,

ХОР: Два парогі ступаючы,
Два норавы зьвяраючы...

КАЦЯРЫНА *(Сьмяючыся.)*:
Пасьцелю слаці — я ўжо умею,
Да сэрца прытуляці — ужо умею,
Забылася толькі, як мілага пытаці,
Ці пазволіць мне, маладой, гуляці?

*(Працяг будзе)*



# ГУМАР



*Ці я ў хаце ня была*
*Ды ні гаспадыня?*
*Тры дні хаты ні мяла*
*Сьмецьця ні насіла.*
*А вымяту я разом*
*Ды вывязу я вазом*
*На сівой кабыле —*
*Ды сьвёкру на ніву.*

— Вашы трывалыя шлейкі я магу рэкамандаваць кажнаму, — крычыць адзін грамадзянін вулічнаму гандляру — яны мне выратавалі жыцьцё.
— Якім-жа гэта чынам? — пытаюцца з усіх бакоў.
— Калі я ўчора хацеў на іх павесіцца, яны парваліся.

---

Кліент (якога толькі-што апраўдалі): — Цяпер у мяне няма наяўных грошай, сп. адвакат; ці ня мог-бы я заплаціць вам натурай?
Адвакат: — А што вы мне хочаце запрапанаваць?
Кліент: — Адну з тых гусей, якія я украў.

---

— Мая сукенка вельмі прыгожая, ці-ж ня праўда?
Усе ёю захопліваюцца...
— Цудоўная! У такой сукенцы нават кол выглядаў-бы прыгожа.

---

— Твае боты страшэнна скрыпяць! Ты мо' дагэтуль за іх не заплаціў?
— Вось, дык сказаў! А чаму-ж ня скрыпіць тваё паліто, і жакет, і нагавіцы, і капялюш?

---

Маладая матка: — Я з сваім дзіцям ня маю ніякага клопату. Як толькі пачну яму сьпяваць — адразу засыпае.
Сяброўка: — Яно, відаць, вельмі музыкальнае.

---

Пані (прыймаючы служанку): — Памятай Зося, што я вымагаю, каб ты была паслухмяная і ніколі ня лгала.
Зося: — Добра, але што будзе, калі хтонебудзь будзе званіць, а пані загадае мне казаць, што нікога няма дома?



*Ой, прысеў я пры дзяўчынцы*
*Яна — адпіхае:*
*Цяпер я ўжо добра знаю,*
*Што іншага мáе.*

---

Мне так шкада беднай Кацярыны. Муж сказаў, што яна павінна або разьвесьціся з ім, або расстацца з сваім мопсам.
— І мусіла зрачыся мопса!?
— Дзе там! Разьвялася з мужам, а праз два дні здох мопс.



*А ты, чарачка-каток, —*
*Укаціся у раток:*
*Ня стучы, ня гручы,*
*Каля сэрца ідучы!*



*Чые коні — папутаны,*
*А маé — ў садочку!*

*А хто любіць — далёкую,*
*Я — суседву дочку!*